# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №40 (149), 5 КАСТРЫЧНІКА 1994 ГОДА. КОШТ 50 РУБЛЁЎ



# ВЯРТАННЕ Ў НЯСВІЖ

## ПРА ГОРАД-МУЗЕЙ, РАДЗІВІЛАЎСКІ РОД І ШМАТ ШТО ЯШЧЭ

21 — 22 верасня 1994 г. у Нясвіжы праходзіў міжнародны навуковы сімпозіум "Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць". Арганізатарамі сімпозіума выступілі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Нацыянальны гісторыка-культурны запаведнік "Нясвіж", Асацыяцыя беларусістаў, Беларускі інстытут праблем культуры і Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Старшынёй арганізацыйнага камітэта быў першы намеснік міністра культуры і друку Уладзімір Аляксандравіч Гілеп.

Мэта сімпозіума — навуковае вывучэнне гістарычнай, архітэктурнай і мастацкай спадчыны Нясвіжа і вырашэнне практычных задач па пераўтварэнні горада ў міжнародны музейна-асветны і турыстычны асяродак. Арганізатары сімпозіума хацелі таксама звярнуць увагу еўрапейскай грамадскасці на адзін са старадаўніх цэнтраў беларускай культуры, якім з'яўляецца Нясвіж. Гэта зразумела: у наш час, калі ў дзяржаўных дзеячаў не хапае грошай на падтрымку помнікаў гісторыі і культуры, ёсць неабходнасць звярнуць увагу вышэйшых прадстаўнікоў нашай дзяржавы, а таксама еўрапейскай грамадскасці на гэты горад з незвычайнай гісторыяй. Нясвіж патрабуе аб'яднання намаганняў усёй еўрапейскай супольнасці, каб захавацца як гораду-помніку і стаць сапраўды музейным і турыстычным цэнтрам.





У працы сімпозіума ўдзельнічалі менскія навукоўцы, прадстаўнікі польскай гістарычнай навукі (у тым ліку член Польскай Акадэміі навук Аляксандр Гейштар), госці з Лондана (сярод іх — вядомы беларусіст Джым Дынглі), пасол Польшчы ў Беларусі прафесар Эльжбета Смулкова, прадстаўнік расійскага пасольства ў Менску. Сярод удзельнікаў былі таксама нашчадкі былой беларускай арыстакратыі. Гэта князь Антоні Радзівіл, хімік па адукацыі, працаўнік адной з хімічных карпарацый у Лондане. Праўда, ён належыць не да нясвіжскай, а да алыцка-пшыгадзіцкай (на Украіне і Польшчы) лініі роду Радзівілаў. Разам з ім была жонка Ружа (Роза) з сям'і князёў Чартарыскіх, гісторык па адукацыі. Прыехаў і брат пані Радзівіловай — прафесар Інстытута гісторыі навукі Польскай акадэміі навук з Варшавы князь Павел Чартарыскі, спецыяліст па феадальнай гісторыі. Але пераўзыходзіў усіх наш добры знаёмы з Лондана, які ўжо некалькі разоў прыязджаў у Менск, — граф Андрэй Цеханавецкі, князь Заслаўскі-Мсціслаўскі, як яго тытулавалі афіцыйныя асобы і якому 28 верасня споўнілася 70 гадоў. З гэтай нагоды юбіляру былі ўручаны падарункі ад Міністэрства культуры і друку і Нясвіжскай савецкай улады.

*(Працяг на стар. 5)*

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

## ІНФАРМАЦЫЯ БЕЗ МЕЖАЎ

Аддзел навуковай інфармацыі па праблемах культуры і мастацтва Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі выконвае функцыі рэспубліканскага цэнтра галіновай інфармацыі. Напрамкі дзейнасці аддзела: сістэматычнае вывучэнне і апрацоўка літаратуры па пытаннях культуры і мастацтва, якая паступае ў бібліятэку, і неапублікаваных дакументаў, якія захоўваюцца ў даведачна-інфармацыйным фондзе аддзела; падрыхтоўка на іх аснове бібліяграфічнай, рэфератыўнай, аглядНай і іншай інфармацыі; забеспячэнне кіруючых работнікаў дзяржаўных арганізацый, вучоных і спецыялістаў устаноў культуры і мастацтва рэспублікі інфармацыяй аб перадавым вопыце і дасягненнях у галіне культуры і мастацтва; арганізацыя ўзыходзячага патоку неапублікаваных дакументаў; арганізацыйна-метадычнае забеспячэнне развіцця і ўдасканалення галіновай сістэмы інфармацыі і метадычнае кіраўніцтва адпаведнымі службамі інфармацыі рэспублікі.

Аддзел ажыццяўляе інфармацыйнае абслугоўванне ў рэжымах выбарчага распаўсюджвання інфармацыі, дыферэнцыраванага абслугоўвання кіраўніцтва, "запытанне — адказ" кіруючых работнікаў Міністэрства культуры, устаноў і арганізацый культуры і мастацтва рэспублікі.З 1992 года аддзел пачаў працаваць у аўтаматызаваным рэжыме: ствараецца рэспубліканскі банк звестак па культуры і мастацтве, а на яго аснове рыхтуюцца бібліяграфічныя выданні аддзела.

Аддзелам выдаецца 6 назваў інфармацыйных дакументаў:

— аператыўная інфармацыя (на беларускай, рускай мовах; 6 выпускаў у год) — тэматычная падборка матэрыялаў у выглядзе аналітычных і рэфератыўных аглядаў па актуальных пытаннях культуры і мастацтва.

— асноўныя службовыя дакументы (на беларускай, рускай мовах, 2 выпускі у год) — збор дырэктыўных дакументаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Прызначаны для забеспячэння арганізацый і ўстаноў культуры неабходнымі пастановамі, загадамі і іншымі нарматыўнымі актамі.

— культурнае жыццё Беларусі (на беларускай, рускай мовах, 12 выпускаў у год) —хроніка падзей і фактаў культурнага жыцця Беларусі.

Новая літаратура па культуры і мастацтве Беларусі (на беларускай, рускай мовах; 12 выпускаў у год) —бібліяграфічны паказальнік па ўсіх пытаннях гісторыі, сучаснага стану і развіцця культуры і мастацтва рэспублікі незалежна ад мовы і месца выдання.

Сігнальная інфармацыя: штотыднёвы агляд літаратуры па культуры і мастацтве (на беларускай, рускай, замежных мовах; 52 выпускі ў год) — анатаваны агляд новых паступленняў літаратуры па пытаннях культуры і мастацтва ў НБ Беларусі.

Сістэматычны паказальнік неапублікаваных дакументаў па культуры і мастацтве (на беларускай, рускай мовах; 2 выпускі у год) — бібліяграфічны паказальнік неапублікаваных дакументаў, якія паступаюць у фонд аддзела. Ён змяшчае пералік службовых матэрыялаў Міністэрства культуры Беларусі, упраўленняў культуры аблвыканкамаў, дакументаў навукова-метадычных цэнтраў, справаздач, планаў і даведак арганізацый і ўстаноў культуры рэспублікі, аглядаў НДА "Информкультура" Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі, АНІКМ НБ Беларусі і бібліятэк іншых рэспублік.

**У.ШЫШКІН**




## АЛЁ, СЛУХАЕМ ВАС!

Пазваніўшы ў рэдакцыю, чытач пацікавіўся, як сёння трэба ставіцца да леташніх кастрычніцкіх падзей у Маскве? Тыя, каго ўчора называлі віноўнікамі праліцця крыві, хто нядаўна бавіў час у чаканні суда, сёння — на свабодзе і выступаюць з гучнымі заявамі, якія можна трактаваць як заклік да грамадзянскай вайны. Так, сапраўды пытанне ёсць...

Спаўняецца год з тых дзён, калі супрацьстаянне прэзідэнта і Вярхоўнага Савета Расіі паставіла краіну на грань грамадзянскай вайны. Дагэтуль спрачаюцца адносна лічбы загінуўшых у кастрычніцкія дні, няма і адназначнай ацэнкі тых падзей. Усе згаджаюцца, што палітычная драма, выплеснуўшыся на вуліцы расійскай сталіцы, набыла характар нацыянальнай трагедыі, але адказу на пытанне "хто вінаваты?" няма. Нельга нават дакладна высветліць, "хто першы пачаў?" Па версіі "пераможцаў" (калі ўвогуле ў грамадзянскай вайне бываюць пераможцы), дзеянні Вярхоўнага Савета трэба класіфікаваць як мяцеж, замах на грамадзянскія мір і згоду ў Расіі, гарантам якіх з'яўляецца прэзідэнт Ельцын. У гэтым выпадку дзеянні Ельцына з маральнага і палітычнага пункту гледжання падаюцца цалкам абгрунтаванымі. Бо такім чынам была прадухілена грамадзянская вайна.

Другі бок лічыць, што мела месца народнае паўстанне супраць антынароднага рэжыму. І жорсткасць, з якой паўстанне было падаўлена, канчаткова пазбавіла Расію ілюзій адносна сённяшніх правіцеляў Расіі — Ельцына і ягонай каманды.

Адны кажуць, што страляць з танкавых гарматаў па будынку, дзе знаходзіліся жанчыны і старыя, увогуле сотні неваенных людзей (гаворка ідзе пра Белы дом), — фашызм. Другія ім адказваюць: фашызм — прыкрывацца жанчынамі і старымі, выстаўляць неваенных людзей у якасці жывога заслону.

Адразу пасля маскоўскіх падзей прадстаўнікі дэмакратычнай апазіцыі Вярхоўнага Савета Беларусі прапанавалі Станіславу Шушкевічу тэрмінова склікаць сесію ВС, каб на ёй зрабіць рашучыя заканадаўчыя захады супраць антынацыянальных, антынезалежніцкіх сіл на Беларусі, паставіць з Расіяй цывілізаваную мяжу — каб болей Беларусь не была заложніцай чужых авантур, каб нам не ўздрыгваць кожным разам, калі ў Маскве ўздымаецца чарговы вэрхал пра "адзіную і непадзельную". Шушкевіч адмовіўся. Думаю, менавіта тады ён падпісаў сабе як палітыку смяротны прысуд. Станіслаў Станіслававіч палічыў, што, маючы сябрам Ельцына (а Ельцын, мабыць жа, будзе ўдзячны яму за словы падтрымкі ў кастрычніцкія дні), можна не хваляваца за сваё крэсла. "Старэйшы брат" пры выпадку абароніць і ад наменклатурнай большасці, і ад дэмакратычнай меншасці.

Гэтая філасофія каштавала Шушкевічу пасады (і Ельцын не абараніў), але нічому не навучыла ягоных паслядоўнікаў. Вялікія спадзяванні на асабістыя стасункі з расійскім кіраўніцтвам меў таксама Кебіч і таксама "прагарэў". Спрабуе сябе ў гэтым амплуа і прэзідэнт Лукашэнка. Але за сваё прамаскоўскае, "верноподданническое" інтэрв'ю расійскаму тэлебачанню ён атрымаў здзеклівую, абразлівую публікацыю ў маскоўскіх "Известиях". Я ўпэўнены, так будзе з кожным, хто перад Масквою прагінаецца, бо лепшага стаўлення і не заслугоўвае.

Армяна-азербайджанскі канфлікт у Карабаху, збройнае супрацьстаянне ў Грузіі і Таджыкістане, Крым (дзе не страляюць, але ўжо бразгаюць зброяй), нарэшце, кастрычніцкія падзеі 1993г.сведчаць, што "югаслаўскі варыянт" мог стаць рэальнасцю на ўсёй прасторы былога СССР. Віскулёўскія пагадненні выратавалі сітуацыю. Накіравалі працэс дэмантажу імперыі ў больш-менш цывілізаванае рэчышча. Мінулагодняя маскоўская спроба "вяртання ў СССР", дзякуй Богу, не мела поспеху. Рэпетыцыя грамадзянскай вайны так і засталася рэпетыцыяй. Але рэжысёры авантуры не згодныя на доўгі "прастой" і, безумоўна, будуць шукаць новую сцэнічную пляцоўку для сваіх эксперыментаў. Менавіта з гэтай прычыны я хацеў бы, каб на ўсходзе Беларусь мела мяжу не горшую, чым на захадзе. Для невялікай краіны, што мяжуе з Расіяй, гэта можа быць пытаннем жыцця і смерці.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ,**
**адказны сакратар "Культуры"**



## ВІНШУЕМ!



5 кастрычніка вядомаму жывапісцу, педагогу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Беларусі Пятру Серапіёнавічу КРАХАЛЁВУ спаўняецца 75 гадоў. Яго, ураджэнца Курганскай вобласці, лёс звязаў з Беларуссю. І гэтая сувязь сапраўды кроўная. Падчас вайны Пётр Серапіёнавіч быў цяжка паранены пад Чачэрскам, дзе яго падабралі і вылечылі мясцовыя жыхары.

П.Крахалёў вучыўся ў Ленінградскім інстытуце імя І.Рэпіна. Потым ён выкладаў у Мінскай мастацкай вучэльні, у політэхнічным інстытуце, а апошнія трыццаць гадоў аддаў тэатральна-мастацкаму інстытуту (цяпер — Беларуская Акадэмія мастацтваў). І сёння Пётр Серапіёнавіч Крахалёў працуе: не можа жыць мастак без любімай справы.

**29 верасня**

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адбылася прэзентацыя карціны Г.Ціхановіча "Бітва пад Воршай", прысвечаная 480-м угодкам бітвы.




**5 кастрычніка**

У Мінск прыбывае дэлегацыя галандскага фонду ЭГОРА (EGORA). Фонд займаецца распрацоўкай сумесных з ЮНЕСКО міжнародных праектаў, мэтай якіх з'яўляецца паказ каштоўнасцей культуры Беларусі, Расіі і Украіны ў краінах Заходняй Еўропы. У час візіту будуць праведзены перамовы аб удзеле Беларусі ў гэтых праектах.

**14-15 кастрычніка**

У нямецкім горадзе Білефельдзе адбудзецца Чэмпіянат свету па дзесяці танцах сярод прафесіяналаў. Беларусь будуць прадстаўляць В. і А.Ляшэнкі з Мінска і А. і Н.Кананенкі з Віцебска.

ІНФАРМКУЛЬТУРА, НАЦЫЯНАЛЬНАЯ БІБЛІЯТЭКА

**4 кастрычніка**

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адбылося адкрыццё выставы "Жыццё і творчасць невідушчых".

**19-20 кастрычніка**

У Магілёве будзе праведзены семінар-нарада па пытаннях аўтаматызацыі бібліятэк сістэмы Міністэрства культуры і друку, на якім будуць разгледжаны праектныя рашэнні па стварэнні Аўтаматызаванай інфармацыйна-бібліятэчнай сістэмы (АІБС), вынікі яе ўкаранення і далейшыя перспектывы. Арганізатары семінара — Нацыянальная бібліятэка Беларусі і Магілёўская абласная бібліятэка.

**12 кастрычніка**

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбудзецца пасяджэнне "круглага стала", на якім будзе абмеркавана кола пытанняў, звязаных з вызначэннем паняццяў "нацыянальная кніга", "нацыянальны дакумент", "кніга Беларусі". Удзельнічаць у пасяджэнні запрошаны гісторыкі, літаратуразнаўцы, бібліятэказнаўцы.

## ДА ПАСЛУГ ЧЫТАЧОЎ

Аддзел аўтарэфератаў Нацыянальнай бібліятэкі вядзе работу па апрацоўцы, арганізацыі кніжнага фонду мікрафіш дысертацый і аўтарэфератаў, а таксама абслугоўванні чытачоў.

Аўтарэфераты паступаюць па ўсіх галінах ведаў. Новыя паступленні сістэматызуюцца па наменклатуры спецыяльнасцей навуковых супрацоўнікаў. Выставы новых паступленняў арганізоўваюцца штотыднёва. Новыя аўтарэфераты апрацоўваюцца з дапамогай ЭВМ; створана картатэка новых паступленняў на аўтарэфераты, апрацаваныя на ЭВМ.

Пры абслугоўванні чытачам прапануюцца не толькі новыя паступленні аўтарэфератаў, але і за пэўны час. Арганізаваны сістэматычны каталог аўтарэфератаў, пабудаваны па наменклатуры спецыяльнасцей навуковых супрацоўнікаў.

Акрамя гэтага, усе аўтарэфераты адлюстраваны ў генеральным алфавітным каталогу НБ Беларусі.

Пачынаючы з 1987г. у аддзел пачалі паступаць мікрафішы дысертацый па ўсіх навуках (акрамя медыцыны). Аднак у сувязі з парушэннем грашовага разліку з Расіяй з 1992г. мікрафішы дысертацый паступаюць толькі па грамадскіх навуках. На мікрафішы дысертацый створаны алфавітны і сістэматычны каталогі. У чытальнай зале аддзела абсталяваны месцы для чытання мікрафіш дысертацый.

**Галоўны бібліятэкар**
**Г.ЛУКАШОВА**

## РАЗВІТАННЕ

Мінскае мастацкае вучылішча пры Беларускай Акадэміі мастацтваў у жалобе. Раптоўна не стала мастака-педагога Леаніда Лапчынскага. Чалавек — Педагог — Мастак, які аддаў вучылішчу 32 гады свайго жыцця, яшчэ быў у росквіце творчых сіл і поўны духоўнай энергіі. Леанід Лапчынскі нарадзіўся ў 1936 годзе ў Мінску, скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, з 1962 года працаваў выкладчыкам у сваім родным вучылішчы. Леанід Васілевіч Лапчынскі быў з тых людзей, якія маглі шчодра аддаваць свой талент, сваё сэрца маладым. Выкладанне жывапісу для яго было штодзённай працай і святам. Сціпласць у побыце, чалавечая дабрыня, натхнёная праца і любоў да мастацтва — гэта было ягоным стылем жыцця. Гэта было жыццё для мастацтва без кампрамісаў, і яно аддадзена дзецям, калектыву да рэшты.

Вобраз Леаніда Лапчынскага, яго імя будзе трывала ўпісана ў гісторыю Мінскага мастацкага вучылішча як аднаго з вопытных, аддадзеных мастацтву і выкладчыцкай справе мастакоў-педагогаў, які ўнёс вялікі ўклад у выхаванне маладых творцаў Беларусі.

**М.КУПАВА,**
**намеснік дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча пры БелАМ**

СІТУАЦЫЯ

# А.ЛУКАШЭНКА: "НАЕЛІСЯ СВАБОДЫ І ДЭМАКРАТЫІ?"

Працяглая сустрэча прэзідэнта Беларусі з журналістамі атрымалася даволі эклектычнай. Гэтак адбылося таму, што прэзідэнт паабяцаў адказаць на ўсе пытанні і абяцанне сваё выканаў — ну, а журналістаў, якіх набралася поўная зала, цікавілі самыя розныя праблемы.

На жаль, мала чаго гаварылася пра эканоміку. А.Лукашэнка паведаміў, што праграма першачарговых і неадкладных мераў будзе прадстаўленая на сесію Вярхоўнага Савета, г.зн. журналісты, як і ўсе астатнія, у бліжэйшы час будуць мець магчымасць з ёй азнаёміцца і прааналізаваць. Але нават нешматлікія выказванні пацвярджаюць ранейшае ўражанне аб супярэчлівасці і цьмянасці поглядаў прэзідэнта на эканоміку — і гэта пры тым, што А.Лукашэнка выказаў прэтэнзіі на ролю бацькі беларускіх эканамічных рэформаў, накшталт Бальцаровіча ці Гайдара. Як і гэтыя дзеячы, А.Лукашэнка разумее неабходнасць спынення інфляцыі і прываблівання замежных інвестыцый. Аднак, поруч з гэтым, — непрыняцце ўмоў Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка рэканструкцыі і развіцця, якія "гатовыя даць 700 мільёнаў даляраў, але патрабуюць, каб Лукашэнка жалезным шляхам ішоў да рынку", што, на думку прэзідэнта, прывядзе да пагаршэння жыццёвага ўзроўню. З матэрыялаў прэс-канферэнцыі прадстаўніка МВФ на Беларусі В.Мідлкоапа чытачы могуць пераканацца, што гаворка ідзе не пра нейкі "жалезны шлях", а проста пра нармальны і паслядоўны пераход да рынкавай эканомікі, якая ва Усходняй Еўропе, як і ва ўсім свеце, вядзе не да пагаршэння, а да паляпшэння дабрабыту насельніцтва; даваць жа крэдыты ў цяперашняй сітуацыі (праўда, Мідлкоап гаварыў не пра 700, а пра 600 мільёнаў) — значыць падтрымліваць камандна-адміністрацыйную сістэму. Варта засяродзіць увагу і яшчэ на адным моманце. У рамках сустрэчаў з усімі катэгорыямі насельніцтва (як лічыць Аляксандр Рыгоравіч, такім чынам ён вывучыў патрэбы ўсіх) прэзідэнт прыняў і прадпрымальнікаў. Я не ведаю, што гэта былі за прадпрымальнікі — бо ніякіх "катэгорый насельніцтва" ў строгім сэнсе слова няма, гэта спадчына класавага падыходу, на самой справе ўсё індывідуальна, перш за ўсё ёсць асобныя людзі са сваімі асабістымі меркаваннямі і інтарэсамі, — але, паводле слоў прэзідэнта, на ягонае пытанне "Наеліся свабоды і дэмакратыі?" яны адказалі станоўча і наогул "стаяць на ідэі дзяржаўнага рэгулявання рынкавай эканомікі". А між тым, у адным з артыкулаў у "Известиях" былы дысідэнт Л.Цімафееў адзначаў, што партыйны сакратар ужо не захацеў бы вяртацца ў райкамаўскі кабінет з офіса ўласнай фірмы, але ён ахвотна скарыстоўвае сацыялістычную рыторыку, бо не зацікаўлены ў нармальным рынку, не жадае канкурэнцыі і роўных магчымасцяў для ўсіх. Вядома, да чаго вядзе рынак у спалучэнні з моцным уплывам дзяржавы на эканоміку — да ўсяўладдзя чыноўнікаў. Таму рынак, які нас чакае, будзе выродлівым, з шырокай "прыхватызацыяй" для вузкага кола на першым этапе і моцным дзяржаўным рэгуляваннем у далейшым, — а, адпаведна, з адміністрацыйнымі перашкодамі для прадпрымальнікаў, з суперманапалізмам і без вольнай канкурэнцыі, з разгалінаванай бюракратыяй, невынішчальнай карупцыяй і панаваннем мафіі. Увогуле, усё як у лепшых дамах Калумбіі і Гватэмалы. І хаця А.Лукашэнка ўпэўнена заявіў, што з мафіяй і карупцыяй ён справіцца, гэта здаецца нерэальным. Ужо зараз прэзідэнт прызнаў, што "ў нашым дзяржаўным апараце, часта вельмі добрым, вырашыць пытанне вельмі складана". Мушу ў чарговы раз адзначыць арыгінальнасць лагічнага мыслення прэзідэнта — сам я заўсёды лічыў (відаць, па наіўнасці), што калі дзяржапарат не можа забяспечыць хуткага і аператыўнага вырашэння пытанняў, дык ён не вельмі добры, а вельмі дрэнны. Але агульнавядома, якім чынам можна паскорыць вырашэнне свайго пытання. І пакуль уплыў дзяржаўных органаў на эканоміку, ды і на іншыя сферы жыцця, будзе вялікім, усялякая барацьба з карупцыяй будзе бясплённай.

Закранался на сустрэчы і праблема мясцовага самакіравання, — тым больш, што нездоўга адбылася нарада прэзідэнта з кіраўнікамі органаў мясцовай улады. На гэтай нарадзе прэзідэнт прапанаваў увесці прамыя выбары насельніцтвам старшыняў мясцовых саветаў, што не знайшло падтрымкі — і то натуральна, мясцовыя бюракраты зусім не ўпэўненыя, што на прамых выбарах абяруць менавіта іх. Таксама Аляксандр Рыгоравіч пацвердзіў неабходнасць строгага падзелу функцый паміж мясцовымі саветамі і прэзідэнцкай вертыкаллю на месцах — гэта сапраўды вельмі важна і неабходна, аднак вось за мясцовымі саветамі прэзідэнт гатовы пакінуць толькі "зацвярджэнне бюджэту і ажыццяўленне кантролю". Выканаўчую ж адміністрацыю А.Лукашэнка жадае прызначаць сам. Абсалютна ясна, што ніякага мясцовага самакіравання пры гэтым не будзе, а застанецца тая ж савецкая сістэма з вырашэннем усіх пытанняў у цэнтры. Тым больш, што прэзідэнт заявіў адкрыта: "Я ўладу ні з кім не збіраюся дзяліць, я буду патрабаваць выканання".

Далей А.Лукашэнка распавядаў пра сваю настальгію па Савецкім Саюзе, якую ён, як прэзідэнт, па Канстытуцыі абавязаны быць гарантам суверэнітэту, не можа ставіць на чале дзяржаўнай палітыкі. Гэтая акалічнасць — неабходнасць быць незалежным насуперак уласным пачуццям — выразна адбіваецца на пазіцыі прэзідэнта ў адносінах да Расіі. А.Лукашэнка канстатаваў, што цэны ва ўзаемаразліках з Расіяй несправядлівыя, "мы поўнасцю плоцім за энерганосьбіты, а сваю прадукцыю прадаем за бясцэнак" — але ставіў ён гэтае пытанне перад расейскім прэм'ерам выключна на ўзроўні просьбы, таму што ўпэўнены, што Беларусь можа існаваць толькі ў трывалай звязцы з Расіяй. Відавочна, што на раўнапраўны дыялог А.Лукашэнка нават не прэтэндуе. Больш за тое, ён марыць пра яшчэ больш жорсткую залежнасць: "Калі мы з Расіяй у эканамічным плане пачнем збліжацца, дык прыдзем і да больш глыбокага збліжэння". Пры гэтым прэзідэнт не гаворыць пра ліквідацыю фармальнай суверэннасці: "будзе парламент, МУС, КДБ і іншыя атрыбуты дзяржавы" (чамусьці ў ліку гэтых атрыбутаў А.Лукашэнка не назваў валюту). Г.зн. цяперашні стан намінальна незалежнага сатэліта Расіі А.Лукашэнка мае намер працягнуць і ўзмацаваць.

Раней журналісты мелі магчымасць пераканацца ў тым, што свабоду прэсы А.Лукашэнка разумее даволі своеасабліва. Зараз прэзідэнт ужо не казаў пра адміністрацыйныя меры да тых газет, якія пішуць не тое, што яму хацелася б, аднак недвухсэнсава пагразіў эканамічнымі санкцыямі: "Фінансавых накачак не будзе. Калі вы дзяржаўныя грошы з'ядаеце, будзьце ласкавымі праводзіць дзяржаўную палітыку, і не трэба лямантаваць пра нейкую незалежнасць". Аналагічную палітыку праводзіў і Кебіч. Яшчэ прэзідэнт таксама паведаміў пра свой намер мець дзве газеты. Гэта не значыць, што прэзідэнт купіць гэтыя выданні за ўласныя грошы — не, яны будуць фінансавацца з кішэняў падаткаплацельшчыкаў. І хаця А.Лукашэнка паабяцаў, што гэтыя газеты будуць вельмі аб'ектыўнымі, і "мы пакажам прыклад, што можна ўсё ж такі быць пад прэзідэнтам і мець найвялікшую самастойнасць", у наяўнасці жаданне за дзяржаўны кошт мець перавагу перад сваімі палітычнымі апанентамі. Як бы рэагавалі, скажам, у Англіі, калі б М.Тэтчэр завяла сабе газету за дзяржаўныя грошы?

І апошні момант, на якім я хацеў бы спыніцца. Прэзідэнт многа і пранікнёна разважаў аб тым, што хацеў бы знайсці ўзаемаразуменне з творчай інтэлігенцыяй, пра тое, як кепска, калі "таланцішчы" з'язджаюць з Рэспублікі Беларусь, пра неабходнасць "уліку таленавітых людзей" і даручэнне "вызначыць таленавітых журналістаў, медыкаў, навукоўцаў, настаўнікаў". Пры гэтым на празаічнае пытанне, ці мяркуецца павелічэнне зарплаты работнікам інтэлектуальнай сферы, у прыватнасці Акадэміі навук, адказаў, што ў некаторых краінах акадэміі навук наогул "носяць грамадскі характар".

Калі прэзідэнт думае, што нейкі рэестр талентаў, складзены зноў жа цэнтралізаваным шляхам, дзяржчыноўнікамі (а астатнія будуць працаваць практычна на грамадскіх пачатках, бо тыя грошы, што яны атрымліваюць, можна прыраўняць да дапамогі па беспрацоўі), выратуе інтэлектуальны патэнцыял Беларусі, павысіць сацыяльны прэстыж інтэлектуальнай работы, дык ён у гэтым памыляецца. Як, зрэшты, і шмат у чым іншым.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# ТРАЕЦКАЯ АВАНТУРА. ХТО ЯЕ СПЫНІЦЬ?

***Група вядомых навукоўцаў, дзеячаў культуры і мастацтва накіравала ліст прэзідэнту краіны, у Камісію Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні нацыянальнай спадчыны, ва ўрад Беларусі і сталічны гарадскі савет.***



*Здымак зроблены з макета помніка. Гэта варыяцыя, прычым няўдалая, на тэму расейскай царкоўнай архітэктуры. Няцяжка прадбачыць, што сваім аблічам і, галоўнае, зместам мемарыял будзе канфліктаваць з наваколлем.*

З часу анексіі Беларусі ў канцы XVIII ст. беларускія юнакі рэгулярна выкарыстоўваліся ў якасьці гарматнага мяса ва ўсіх заваёўніцкіх войнах Расіі.

Вайсковыя авантуры царызму — так званыя "кампаніі" каўказскія, балканскія, маньчжурскія, японскія, першая сусветная вайна, забралі многія тысячы жыццяў беларусаў, і шлях Расіі да сусветнай імперыі быў высцелены і беларускімі касцямі. Пераняўшы імперскія традыцыі, такую ж агрэсіўную палітыку ажыццяўляў і крамлёўскі бальшавіцкі рэжым. І зноў беларусы гінулі за тысячы вёрстаў ад Бацькаўшчыны за чужыя інтарэсы ў Фінляндыі, Карэі, Венгрыі, Чэхаславакіі, Егіпце, Сірыі ды іншых кутках свету. Злачыннай і ганебнай была апошняя агрэсіўная вайна супраць афганскага народа, якая забрала сотні маладых жыццяў нашых суродзічаў, прынесла гора ў тысячы беларускіх сем'яў, пакалечыла фізічна і духоўна яшчэ больш маладых лёсаў, што наклала адбітак на цэлае пакаленне беларусаў.

Гэтая трагедыя мае і другі бок — боль і бяду афганскага народа, які стаў ахвярай агрэсіі, зведаў нязмерныя пакуты, згубіў незлічоныя мільёны чалавечых жыццяў, у тым ліку мірнага насельніцтва. Гора мацярок Афганістана, Беларусі, Украіны, Расіі, Таджыкістана ды іншых народаў, сыны якіх загінулі ў гэтай вайне, аднаго вымярэння, толькі з той розніцай, што сыны Афганістана баранілі сваю краіну ад няпрошаных гасцей. Праўду пра афганскую вайну сталі пісаць і гаварыць нядаўна. Вялікі ўклад у праўдзівае асвятленне падзеяў у Афганістане ўнесла пісьменніца, мужная жанчына Святлана Алексіевіч сваёй кнігай "Цынкавыя хлопчыкі". Аднак і сёння далёка не ўсе прыйшлі да ўсведамлення ганебнасці гэтай вайны, віны камуністычнага рэжыму перад сіротамі, удовамі і няшчаснымі мацяркамі. Многія беларускія радыё- і тэлеперадачы, публікацыі ў беларускай прэсе прасякнуты традыцыйным імперскім духам, ім бракуе рэалізму ў ацэнцы ролі гэтай вайны для Беларусі. Тут па-ранейшаму "афганцамі" і інтэрнацыяналістамі называюцца вайскоўцы, якія нібыта выконвалі "інтэрнацыянальны абавязак"... Пэўныя сілы з пачатку афганскай вайны імкнуліся выкарыстоўваць вайскоўцаў — удзельнікаў гэтай вайны ў сваіх брудных мэтах: нам памятныя падзеі 1986 г. у Траецкім прадмесці Менска, калі гэтых хлопцаў падрыхтавалі і скіравалі на пагром беларускіх навучэнцаў са школы мастацтваў. Цяпер жа выкарыстоўваюць некаторых мацярок палеглых вайскоўцаў супраць пісьменніцы С.Алексіевіч і яе кнігі. Больш таго, справакавалі нават прыцягненне пісьменніцы да судовага разбіральніцтва! За што?! Вось дзе крыецца ўся крывадушнасць сённяшняга камуністычнага кіраўніцтва і ягонай паслухмянай Феміды! Няхай бы беларуская Феміда хоць бы назвала тых сакратароў ЦК КПБ, кіраўнікоў БССР і генералаў БВА (у тым ліку і жывых), якія так паслухмяна і спрытна выконвалі ўсе крамлёўскія загады, на сумленні якіх жыцці беларускіх хлопцаў.

Бацькам загінуўшых яшчэ ёсць з каго спытаць за сваё гора і бяду. Але бясспрэчна адно. Нягледзячы на амаральнасць і злачыннасць гэтай вайны, злачыннасць тых, хто пасылаў беларускіх хлопцаў паміраць ні за што ў чужой далёкай краіне, самых вайскоўцаў нельга вінаваціць. Памяць ахвяраў авантурнай палітыкі павінна быць ушанаваная. Маці, жонкі, дзеці, якія ні за што страцілі сваіх сыноў, мужоў і бацькоў, павінны быць сацыяльна забяспечаныя дзяржавай. Ветэраны-інваліды афганскай вайны таксама павінны мець надзейную сацыяльную і медыцынскую абароненасць. Грамадства з дзяржавай павінны спрыяць сацыяльнай адаптацыі і псіхалагічнай гуманізацыі ветэранаў, а ўжо гэта трэба ажыццяўляць супольнымі намаганнямі.

Пэўна ж, не знойдзецца ў нашай краіне чалавека, які б быў супраць узвядзення помніка ахвярам афганскай вайны. Менавіта ахвярам, а не героям-інтэрнацыяналістам. І самым мэтазгодным і натуральным было б ушанаваць іх памяць у месцах, дзе захаваныя іхнія астанкі, найперш на Чыжоўскіх могілках.

Але мацяркі і ветэраны афганскай вайны апрыёрна адвяргалі ўсе прапанаваныя ім для ўзвядзення помніка месцы. Яны ўпадабалі невялікую штучную выспу на рацэ Свіслач паміж Траецкім прадмесцем і менскім замчышчам XI ст.

Статус гэтай тэрыторыі Менска асаблівы, тут пачатак гісторыі сталіцы нашай дзяржавы, вытокі нашае цывілізацыі: амаль тысячу гадоў таму нашыя продкі заклалі драўляныя палі менскага гарадзішча, збудавалі магутны замак, а ў XV-XVII стст. вышэй на гары збудавалі мураваны Верхні горад. Усе гэтыя мясціны ўваходзяць у ахоўную дзяржаўную гістарычную зону горада. Распрацаваны праект рэканструкцыі, рэстаўрацыі Верхняга горада і элементаў замчышча, у тым ліку царквы XII ст., падмуркі якой захаваліся. Узвядзенне ў гэтай зоне новага сучаснага аб'екта, помніка, не звязанага з эпохай, не адпаведнага гістарычнаму часу, — недапушчальнае.

На жаль, аргументы навуковага, гістарычнага горадабудаўнічага, эстэтычнага, урэшце, маральна-этычнага і псіхалагічнага кшталту супраць узвядзення помніка ў гэтым месцы былі праігнараваныя.

У гэтай далікатнай сітуацыі, звязанай з памяццю пра палеглых, перад, трэба сказаць, агрэсіўным напорам з празмернай эксплуатацыяй святых чалавечых пачуццяў капітулявалі і органы аховы помнікаў гісторыі і Міністэрства культуры, і Галоўнае горадабудаўнічае ўпраўленне, і гарвыканкам, у выніку чаго быў дадзены дазвол на ўзвядзенне помніка на выспе, хоць усе згаданыя арганізацыі і лічаць гэтае месца непрымальным для яго пабудовы.

Фактычна без удзелу спецыялістаў і шырокай грамадскасці быў прыняты для рэалізацыі і праект самога помніка, выкананы скульптарамі з Украіны. Праект, на жаль, надзелены ўсімі характэрнымі рысамі афіцыёзных мемарыялаў нядаўняга часу — прэтэнцыёзнасцю, псеўдаманументальнасцю, мастацкім шаблонам. Тут і імітацыя ў натуральную велічыню праваслаўнай расійскай капліцы, і некалькі чатырохметровай вышыні бетонных скульптурных груп, і дубовая алея памяці, і каменныя памінальныя сталы. І ўся гэтая эклектыка — на забетанаванай пляцоўцы маленькай штучнай выспы, у яўнай немаштабнасці і дысанансе з агульнй горадабудаўнічай сіутацыяй.

Няма сумення, што спроба збудаваць помнік ахвярам афганскай вайны ў гістарычным цэнтры беларускай сталіцы — гэта відавочная авантура, якая стварае палітычныя і маральныя праблемы ў грамадстве. Нельга, каб такое сур'ёзнае пытанне вырашалася на ўзроўні валевыяўлення і эмацыянальнага жадання невялікай групы людзей і навязвання іх выбару ўсяму беларускаму грамадству. Няўжо нельга добрую справу зрабіць па-людску — з розумам і без канфлікту. Патрэбна сур'ёзная комплексная (гістарычная, горадабудаўнічая, прафесійна-мастацкая, мастацтвазнаўчая) экспертыза праекта спецыялістаў з удзелам аўтарытэтных прадстаўнікоў грамадскасці, якая б вызначыла месца размяшчэння помніка і вырашыла іншыя ўзнікшыя праблемы. Нашае грамадства, якое ў гады панавання камуністычнай дыктатуры так самаахвярна і ахвярна змагалася за захаванне гістарычнай спадчыны сталіцы і ўсяе краіны, у час, калі Беларусь аднаўляе незалежнасць і будуе сваю дзяржаву, павінна абараніць гістарычную спадчыну ад недарэчнага ўмяшальніцтва.

Сёння, калі, не зважаючы на пярэчанні і пратэсты грамадскасці, на выспе пачынаюцца работы па будаўніцтве помніка, мы, дзеячы культуры і навукі Беларусі, патрабуем ад кіраўніцтва горада і краіны спыніць будаўніцтва помніка ахвярам афганскай вайны ў гістарычным цэнтры беларускай сталіцы. Мы заклікаем улады краіны не дапусціць грубай памылкі, якую праз нейкі час усё ж давядзецца выпраўляць, што прынясе непатрэбныя маральныя страты і боль грамадству.

*Э.Агуновіч — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Л.Акаловіч — намеснік старшыні Згуртавання Беларускае Шляхты; В.Асташынскі — кандыдат фізіка-матэматычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік ІМАФ АНБ; Р.Барадулін — народны паэт Беларусі; Т.Васюк — мастак, выкладчык Беларускага універсітэта культуры; А.Грыцкевіч — доктар гістарычных навук, прафесар; С.Гарбунова — скульптар; Л.Дзягілеў — прарэктар Беларускай Акадэміі мастацтваў; П.Драчоў — мастацкі рэдактар "Беларускага гістарычнага часопіса"; М.Захарэвіч — народная артыстка Беларусі; В.Зуёнак — старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі; М.Купава — намеснік дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча; В.Каваленка — дырэктар Інстытута літаратуры імя Я.Купалы АНБ; К.Касцючэнка — мастак; В.Коўтун — пісьменніца; Г.Крываблоцкая — мастачка; Л.Казлоў — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН РБ; А.Марачкін — дацэнт Беларускай Акадэміі мастацтваў; В.Мазынскі — мастацкі кіраўнік тэатра "Вольная сцэна"; М.Мушынскі — член-карэспандэнт АН Беларусі; Л.Раманоўскі — мастак; М.Савіцкі — прафесар Беларускага эканамічнага універсітэта; З.Санько — вядучы спецыяліст выдавецтва "Навука і тэхніка"; І.Савік — дацэнт Беларускага універсітэта культуры; В.Свентахоўская — мастачка; У.Слабодчыкаў — скульптар, загадчык кафедры скульптуры Беларускай Акадэміі мастацтваў; С.Тарасаў — кандыдат гістарычных навук; С.Цімохаў — мастак; В.Шматаў — доктар мастацтвазнаўства; Г.Штыхаў — доктар гістарычных навук, прафесар; П.Шарыпа — мастак.*

СІТУАЦЫЯ

# ГУЛЬНЯ Ў ЛІЧБЫ, АБО НЯЧЫСТАЯ «ЧЫСТАЯ» ЗОНА

***Раней непаслухмяных малых пужалі рознымі ведзьмакамі і нячысцікамі. Пазней — барабашкамі. Зараз... Зараз малыя зыходзяць дрыжыкамі пры адным упамінанні бацькоў: "А вось прыйдзе чарнобыльскі вожык..." Смешна? Не. Над сваёй бядой не смяюцца. Тым больш, калі ўсур'ёз задумацца, што за гэтым можа стаяць: боль, пакуты, хваробы, заўчасная смерць.***

***Чытаючы гэтыя радкі, не-не, ды і ўзнікне ў кагосьці пытанне: "Зноў яны за сваё? Хопіць нам гвалту на TV-экранах, парнаграфіі ў прэсе, крыміналу ў жыцці. А тут табе і радыяцыя яшчэ..." А мо, і праўда, хопіць?***

***Але газеты можна не чытаць, тэлевізар не глядзець. Ніхто не прымушае. Толькі ж ад навіслай над намі чорнай хмары Чарнобыля нікуды не ўцячэш, падрастае пакаленне, народжанае і ўзгадаванае пад ценем чацвёртага энергаблока...***



Раней, пры камуністах, журналісты ездзілі ў глыбінку, каб "падчапіць на кручок" якога перадавіка ці правафланговы калектыў. Зараз — падавай "смажаныя" факты, якіх сёння і ў сталіцы процьма. А ў тую ж самую правінцыю гвалтам нікога не зацягнеш. Бо ў "кругленькую" суму абыходзяцца такія паездкі нават для саліднага выдання, а пра дарожныя пакуты — асаблівая размова...

Па дарозе на Палессе, на Століншчыну, мне падумалася, што ёсць рэчы, у якія гараджаніну цяжка паверыць, пакуль не пабачыць на ўласныя вочы. Напрыклад, што ёсць мясціны, дзе даярка за сваю працу атрымлівае ўсяго на трэць бохана хлеба ў дзень. А механізатар — толькі ўдвая больш. Хоць, уласна кажучы, чаму здзіўляцца: людзям на вёсцы ў нас было цяжка ва ўсе часы. І зараз, калі ладны кавалак Беларусі пахаваны пад радыяцыйным пылам, вясковыя жыхары засталіся сам-насам са сваімі праблемамі, са сваёй бядою. Яны, як і раней, харчуюцца прадуктамі са свайго прысядзібнага ўчастка, толькі сёння ўжо забруджанага радыяцыяй. І калі адным, згодна з распараджэннем Саўміна, "пашэнціла" чарнобыльцамі звацца і яны маюць ілюзію, што дзяржава іх не забыла, — дык ад іншых наўмысна адварочваюцца, пускаючы пыл у вочы, маўляў, "у вас тут не жыццё, а суцэльны рай і паветра амаль крымскае".

І такі пыл ужо некалькі гадоў адказныя чыноўнікі напускаюць на амаль 700 жыхароў вёскі Мачуль Рамельскага сельсавета. Па незразумелых для сялян прычынах іхняя вёска пастановай Саўміна ад 2 чэрвеня 1992 года не ўвайшла ў шэраг населеных пунктаў, аднесеных да зоны радыяцыйнага кантролю. Вёска на дзвесце з лішнім двароў, тэрыторыяй на паўтара квадратныя кіламетры, на блакітнай радыяцыйнай карце Столінскага раёна, забруджанага цэзіем-137 ад аднаго кюры і болей, выглядае маленькім белым астраўком, а значыцца, лічыцца чыстай зонай.

Па якой прычыне гэта адбылося? Гэтае пытанне задаюць сабе мачульцы. Колькі гадоў таму яны атрымлівалі "грабавыя", на той час — 15 рублёў, а пасля ў імгненне вока некалі "брудная" па ўсіх крытэрыях тэрыторыя кіламетр на кіламетр ператварылася ледзь не ў самую экалагічна чыстую сярод мора радыяцыі, што наўкола на абшарах усяго Рамельскага с/с. Няўжо вучоныя-даследчыкі ізноў нешта наблыталі, і квадратны сантыметр на карце не паспелі своечасова замаляваць у блакітны колер? Мо, памылачка выйшла? Ды не, быццам бы ўсё правільна. Згодна з пастановай Саўміна: "выключыць" ці "не ўносіць". Без розніцы, але сэнс той самы. І вынікі рабіліся на аснове дадзеных Галоўгідрамета і Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.

Усур'ёз занепакоіліся мачульцы і заняліся доўгай перапіскай з вышэйстаячымі арганізацыямі. З велізарным стосам папер-адпісак: з Дзяржаўнага камітэта Беларусі па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС, Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынга прыроднага асяроддзя і г.д., мяне і пазнаёміў дырэктар мясцовай дзевяцігадовай школы Пётр Кірэчка, які асабіста занепакоены далейшым разгортваннем падзей.

А што ў адпісках? Маўляў, усё добра, і, згодна з законам, шчыльнасць забруджанасці тэрыторыі трохі "не дацягвае" да належнай нормы, і штогадовая эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання жыхароў — меней, чым "трэба", у разы два-тры. Зноў "не дацягвае", а значыць, жыць вам у "чыстай" зоне і не спадзявацца на нейкія там ільготы.

Амаль так, сухімі радкамі, але, напэўна, шчыра імкнуўся пераканаць у сваім лісце ад 13.01.94г. да вяскоўцаў і дырэктара школы шаноўны сп.Мацвіенка, начальнік Рэспубліканскага цэнтра кантролю Галоўнага ўпраўлення па гідраметэаралогіі пры Савеце Міністраў РБ. І пры гэтым спасылаўся на дадзеныя абследавання вёскі за перыяд 1991-92гг. (але пра гэта — трохі ніжэй).

Тое ж самае ў сваім лісце ад 25.01.94г. сцвярджае і сп.Ралевіч, намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта РБ па праблемах вынікаў катастрофы на ЧАЭС. Маўляў, сумарная дозавая нагрузка на жыхароў складае 0,3 мЗв (0,03 Бэр) у год, а ўнутраная — 0,2 мЗв, і на падставе гэтага жыхары Мачуль не карыстаюцца ўстаноўленымі льготамі.

Трохі раней, у 1993 годзе, амаль такі ж ліст, толькі па аб'ёме ўдвая большы, мачульцы атрымалі за подпісам іншага намесніка старшыні гэтага камітэта сп.Зубоўскага. У ім таксама было шмат незразумелых простаму селяніну лічбаў (напэўна, каб падвышалі свой адукацыйны ўзровень) і сцвярджэнне "малавата будзе". І быццам бы, мяркуючы па лістах-адказах, усё правільна. Іншыя на месцы мачульцаў радаваліся б: сапраўды, дыхаюць крымскім паветрам. А яны Бога гневаюць і "мужоў дзяржаўных" непакояць. Пабачты, бэраў у год ім нестае, ці кюры на квадратны кіламетр не далічыліся! У забруджаную зону пацягнула, за льготамі! Толькі ёрнічаць тут ранавата.

Вернемся трохі назад. Памятаеце лісты сп.Мацвіенкі ды іншых, у якіх яны аперыравалі лічбамі даследаванняў 1991-92 гг. Вось іх якраз і ставяць пад сумніў мясцовыя жыхары. Бо самі на руках маюць даведку вынікаў апраменьвання за гэты перыяд, што праводзілся сярод населеных пунктаў Рамельскага сельсавета навукова-даследчым інстытутам радыяцыйнай медыцыны (НДІ РАМН), дзе чорным па белым напісана, што ў Мачулі і навакольных вёсках Цераблічы і Аздамічы сумарная эфектыўная эквівалентная доза апраменьвання складае адпаведна 1,2, 1,2, 1,3 мЗв штогод. Ліст быў падпісаны акадэмікам, дырэктарам НДІ сп.В.Мацюхіным.

Але ж калі верыць закону РБ "Аб прававым рэжыме тэрыторый, забруджаных у выніку катастрофы на ЧАЭС", што прыводзіў у сваім лісце сп.Мацвіенка, тэрыторыяй радыяцыйнага забруджвання лічыцца і тая, дзе сярэднегадавая эфектыўная доза апраменьвання насельніцтва можа перавышаць (над сапраўдным і тэхналагічным фонам) 1,0 мЗв (0,1 бэр) у год...

Вось і паўстае пытанне: калі і дзе закралася памылка? Ці спецыялісты-практыкі з НДІ нешта перамералі, ці камітэцкія чыноўнікі ў лічбах заблыталіся і коску не туды ўлупілі? Адным словам, блытаніна атрымліваецца.

Аказваецца, можа быць і такое. Дастаткова лістам-скаргам паболей паблукаць па розных інстанцыях, як радыяцыя сама сабою ўлятучваецца. За гэты час арганізм, так бы мовіць, праходзіць поўнае ачышчэнне. Спачатку было 1,2 мЗв, а цяпер — усяго толькі 0,3. Адкуль апошняя лічба? З паветра? Як і тая радыяцыя, якую прапускаюць праз свае лёгкія мачульцы?

Зноў сяляне селі за ліст паперы і асадку. Пісалі на імя былога спікера парламента. Безвынікова. На Беларускае тэлебачанне ў праграму "Эканамічная хваля". Дык у прамым эфіры сп.Маркоўскі, начальнік аддзела дэзактывацыі Дзяржкамчарнобыля, заявіў на ўсю Беларусь: "Нічога страшнага там няма". Дэлегацыяй ездзілі ў сталіцу да свайго абранніка, народнага дэпутата сп.Чэха, на што "слуга народа" хадакоў са Століншчыны пераканаў: напэўна, памылка выйшла, разабрацца трэба. Вось з таго часу і разбіраецца...

Дык а што ж з астатнімі вёскамі, дзе ў 1991 годзе працавала камісія НДІ? Усе ўвайшлі ў "чорны спіс". А Цераблічы з аднолькавым, як і ў Мачулі, апраменьваннем жыхароў 1,2 мЗв — нават самымі першымі. Мачуль, з яе квадратным кіламетрам, нібы чысцюткая і не так "ззяе". Хоць бяры гэты астравок і абвяшчай яго курортам рэспубліканскага значэння.

Ды і хваляванні сялян на самой справе небеспадстаўныя. Але над адзіным толькі фактам, што з усёй невялічкай вёсачкі 40-50 кароў хворыя на лейкоз, трэба сур'ёзна прызадумацца.

Для мачульцаў малако, мяса і бульба — галоўная ежа, але сёння ўжо — небяспечная для здароўя. Якое забеспячэнне на вёсцы — усім вядома. І ў бліжэйшы час наўрад ці што зменіцца, хіба што ў горшы бок. А таму і не бачаць іншага выйсця. І дзеля дзяцей так голасна заяўляюць аб сваёй бядзе, каб тым прадаставілі льготы для аздараўлення і малыя мелі б магчымасць адпачываць-лячыцца хаця б раз на год у экалагічна чыстай зоне.

Вазілі, праўда, школьнікаў Мачульскай школы ў адпачынак па пуцёўцы, прадастаўленай камісіяй па аздараўленні пры Столінскім райвыканкаме. Толькі не было клопатаў: камісія чакае нейкую разгромную рэвізію. Ёсць ім чаго асцерагацца: пабач, "добрую" справу зрабілі, дзяцей з "чыстай зоны" аздаравіць захацелі. У нас так заўсёды: за што змагаюцца, на тое і натыкаюцца.

І на самой справе, здароўе мачульскіх хлопчыкаў ды дзяўчынак выклікае не толькі хваляванне, але і трывогу. Пётр Кірэчка вазіў трыццаць сваіх вучняў на абследаванне ў Аксакаўшчыну. Ва ўсіх дзяцей выяўлены сур'ёзныя анамаліі: у трынаццаці — лімфадэніт, у дванаццаці — лімфаадэнапатыя, на аперацыю шчытападобнай залозы накіраваны двое, у адной дзяўчынкі знойдзены рак. Яна амаль не пакідае бальнічную палату.

Што, зноў "нічога страшнага"? Ці гэтыя дыягназы не падстава, каб біць ва ўсе званы? Ці гэтыя дыягназы ўзятыя з паветра, як і тыя, набяруся смеласці, значна прыніжаныя, лічбы?

Сваімі вачыма бачыў параўнальныя дадзеныя "чыстых" школьнікаў Мачулі і ўжо "засвяціўшыхся" — з Цераблiч, што прайшлі абследаванне на апраменьванне. Вынікі — цалкам аднолькавыя. Зноў — "нічога страшнага"? Зноў няма падстаў для хвалявання? Нікому, як бачна, няма да гэтага справы. Зразумела, бо ў чыноўнікаў ад радыяцыі галовы не баляць.

Ніхто не бярэ да ўвагі, што на харчаванне вучняў Мачульскай школы, як пражываючых у чыстай зоне, выдаткоўваецца на дзень 200 рублёў (і хлеба не з'ясі за гэткія грошы). Але дырэкцыя знайшла наступны выхад з сітуацыі: занялася эканоміяй і корміць школьнікаў абедам замест шасці — чатыры разы на тыдзень, каб хоць неяк пашырыць меню. Інакш зрабіць яны не маглі, бо не было ў каго прасіць дапамогі.

Такая ж сітуацыя і ў выпускнікоў Мачульскай школы, якія вырашылі працягваць сваю адукацыю ў "забруджанай" Рамельскай СШ, што знаходзіцца за два кіламетры. Яны таксама пазбаўлены льгот на "чарнобыльскае" харчаванне. Як, дарэчы, і іхнія бацькі, што працуюць тут, выганяюць жывёлу на калгасныя палеткі, нарыхтоўваюць кармы, збіраюць грыбы і ягады ў навакольных лясах.

Мачульцы — у разгубленасці. Пётр Кірэчка зноў збіраецца пісаць ліст. На гэты раз — на імя першага прэзідэнта. А.Лукашэнка для іх — апошняя інстанцыя, а значыць, не згаслі яшчэ спадзяванні на разуменне і дапамогу. А што рабіць, калі і на гэты раз мачульцаў чакае чарговая адпіска, ці, што яшчэ горш, ліст зноў пойдзе "блукаць" па кабінетах Дзяржкамчарнобыля, Цэнтра радыяцыйнага кантролю, Міністэрства аховы здароўя, і на іхнюю бяду ніхто не адгукнецца?

**Міхась РЭВУЦКІ**

**P.S.**

Брэсцкі абласны экспертны савет на пасяджэнні, што адбылося 1 верасня бягучага года, разглядзеў пытанне па захворванні (інваліднасці) Людмілы Малюк, вучаніцы дзявятага класа Рамельскай школы (дзяўчынка ў трэці раз трапіла ў бальніцу, ёй была зроблена аперацыя на шчытападобнай залозе, захворванні шчытападобнай залозы маюць і дзве яе малодшыя сястрычкі, вучаніцы першага і трэцяга класаў. — М.Р.), падчас якога ўстаноўлены дыягназ: змешаны зоб II ступені, а ў заключэнні, падпісаным старшынёю Савета сп.В.Рускевіч, сцвярджаецца: захворванне звязана з пражываннем на забруджанай тэрыторыі.

Афіцыйны дакумент, вытрымкі з якога былі прыведзеныя, выдадзены на рукі маці Люды, і на сёння ён з'яўляецца адзіным на ўсіх мачульцаў сведчаннем той жудаснай сітуацыі, у палон якой трапілі вяскоўцы.

Вось вам і "чыстая" зона... Дык каму ж верыць?

**М.Р.**

Мінск — Рамель — Цераблічы — Мачуль

АБШАРЫ

# ВЯРТАННЕ Ў НЯСВІЖ

## ПРА ГОРАД-МУЗЕЙ, РАДЗІВІЛАЎСКІ РОД І ШМАТ ШТО ЯШЧЭ



(Працяг. Пачатак на стар. 1)

Сімпозіум доўжыўся паўтара дні. У першы дзень і ў другі былі пленарныя пасяджэнні, у другой палове 21 верасня працавалі дзве секцыі: "Гісторыя Нясвіжа. Радзівілы і Нясвіж" і "Архітэктура і мастацтва Нясвіжа". 22 верасня адбылося абмеркаванне канцэпцыі Нацыянальнага гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж". Усяго было прачытана каля трыццаці дакладаў і паведамленняў. На жаль, мне не прыйшлося паслухаць даклады ў першай секцыі, бо разам з польскім прафесарам Ежы Кавальчыкам я вёў пасяджэнне другой секцыі. Але з таго, што пачуў, можна зрабіць выснову — навуковы ўзровень сімпозіума быў даволі высокі. Мяркуецца выданне зборніка дакладаў, і тады чытач пазнаёміцца з тымі тэмамі, якія яго цікавяць.

Ганаровы доктар навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта Андрэй Цеханавецкі выступіў з дакладам "Нясвіж як еўрапейскі цэнтр культуры", у якім даў агульныя звесткі пра культурнае жыццё горада ў канцы XVI — XVIIIст. Наступным быў мой даклад "Рэлігійнае жыццё ў Нясвіжы ў XVI — XVIII стагоддзях". Тут было расказана пра вялікі ўздым рэфармацыйных плыняў у 50 — 70-я гады XVIст., яго ўплыў на агульнае развіццё Рэфармацыі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве і пра наступнае акаталічванне жыхароў Нясвіжа, што адбілася і на праваслаўным насельніцтве горада (перавод у грэка-каталікі). У выніку Нясвіж атрымаў каталіцкае аблічча. Колькі слоў было сказана і пра дазвол князя Мікалая Крыштофа Радзівіла (Сіроткі) яўрэям пасяліцца ў Нясвіжы. Для іх была выдзелена спецыяльная, жыдоўская, вуліца, якая на ноч з двух канцоў зачынялася брамамі з вісячымі замкамі...

Цікавым быў праблемны даклад прафесара Аляксандра Гейштара "Рухомыя межы і суіснаванне культур у Цэнтральна-Усходняй Еўропе", у якім разглядалася ўзаемадзеянне культуры польскай і беларускай з паступовым пашырэннем польскай у нашай краіне.

Хацелася б адзначыць даклад дацэнта Акадэміі музыкі кандыдата мастацтвазнаўства Вольгі Дадзіёмавай "Нясвіж як цэнтр музычнай культуры". В.Дадзіёмаву ведаюць як аўтара цікавых прац (у тым ліку манаграфіі) па музычнай гісторыі гарадоў Беларусі XVIII стагоддзя. Вось і нядаўна выйшла яе кніга "Гісторыя музычнай культуры Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII ст.", — дапаможнік для сярэдніх навучальных установаў гуманітарнага профілю. У архівах Польшчы і Літвы яна знайшла шмат дакументальных матэрыялаў па гэтай тэме і вярнула да жыцця шмат музычных твораў таго часу, у тым ліку такіх аўтараў, як Тадэвуш Касцюшка, Мацей Радзівіл, Міхал Клеафас Агінскі і яго далёкі крэўны Міхал Казімір Агінскі.

Цікавымі і змястоўнымі былі даклады прафесара Андрэя Міхалоўскага "Нясвіжскія паркі як еўрапейская з'ява", доктара мастацтвазнаўства Віктара Шматава "Партрэтная галерэя Радзівілаў", кандыдата мастацтвазнаўства Тамары Габрусь "Архітэктурныя чарцяжы XVIст. з Нясвіжа як з'ява еўрапейскай культуры", доктара гістарычных навук Міхаіла Гурына "Нясвіжскія гарматы".

У першай секцыі шэраг дакладаў прысвячаўся жыццю і дзейнасці Радзівілаў (прафесар Павел Чартарыскі: "Радзівілы і кнігадрукаванне", Леанід Акаловіч: "Генеалагічнае дрэва Радзівілаў", Зміцер Яцкевіч: "Радзівілы як фундатары" і інш.).

Асобнае пленарнае пасяджэнне 22 верасня было прысвечана лёсу радзівілаўскіх збораў. Кандыдат мастацтвазнаўства Мая Яніцкая расказала пра драматычную гісторыю замкавых каштоўнасцяў. Сяргей Рыбчонак, спасылаючыся на спецыяльную архіўную справу ў Беларускім дзяржаўным гістарычным архіве, выступіў з паведамленнем "Разрабаванне скарбніцы князёў Радзівілаў у 1812 годзе". Ён падрабязна расказаў (дарэчы, гэта вядомыя з гістарычнай літаратуры факты), як расійскія войскі пасля заняцця Нясвіжа ў канцы 1812 года разрабавалі каштоўнасці князёў Радзівілаў, багатыя архівы былі часткова вывезеныя з Нясвіжа ў Пецярбург і іншыя месцы, а каштоўнасці забіралі афіцэры і салдаты, асабліва казакі. На двары Нясвіжскага замка салдаты палілі паперы з радзівілаўскага архіва.

Нечакана пасля гэтага паведамлення з месца выступіў кандыдат гістарычных навук Міхаіл Спірыдонаў з Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі (увогуле прынцыпова рускамоўны чалавек), які пратэставаў супраць тэрміна "разрабаванне". У адносінах да расійскіх войскаў ён патрабаваў увесці тэрмін "канфіскацыя". Іншых інцыдэнтаў на пленарных пасяджэннях не было.

Неабходна нагадаць пра канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, які адбыўся ў Нясвіжскім доме культуры 21 верасня ўвечары. На ім прысутнічалі не толькі ўдзельнікі сімпозіума, але і жыхары горада. Выканаўцамі былі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны артыст Беларусі Віктар Скарабагатаў, заслужаны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў, лаўрэаты міжнародных конкурсаў Таццяна Цыбульская і Рыгор Палішчук, дыпламант міжнароднага конкурсу Ганна Каржанеўская і ансамбль старадаўняй музыкі "Кантабіле". У зале, бадай, упершыню ў Нясвіжы за дзвесце гадоў, гучалі паланезы і іншыя творы Міхала Клеафаса Агінскага, музычныя творы Мацея Радзівіла, Міхала Казіміра Агінскага, Яна Давіда Голанда, Тадэвуша Касцюшкі. Цудоўныя мелодыі ў прыгожым старадаўнім горадзе!

Удзельнікі сімпозіума наведалі і Нясвіжскі музей і недалёкі Мірскі замак. Плённыя, насычаныя два дні работы навуковай канферэнцыі завяршыліся. Мне здаецца, што сімпозіум быў праведзены ўдала дзякуючы добрай яго падрыхтоўцы і арганізацыі. Думаю, што не толькі замежныя навукоўцы, але і кіраўнікі нашай дзяржавы павінны ўрэшце звярнуць увагу на праблемы культуры і навукі, захавання гістарычнай спадчыны беларускага народа. Час ужо зразумець, што без сваёй гісторыі, нацыянальнай культуры (сапраўднай, а не дэкаратыўнай), сваёй мовы, менталітэту, сваёй свядомасці, сваёй духоўнасці народа не будзе.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,**
**доктар гістарычных навук**

*На здымках:* госці Нясвіжа наведалі Мір.

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# РЫМ-V — У ТРОКАХ

У сярэдзіне верасня (11-14) у старадаўніх Троках пад Вільняй праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя "Вялікае княства Літоўскае і яго спадчына". Шлях да Трокаў быў даволі доўгі, але не выпадковы.

А пачалося ўсё ўвесну 1990г. у сталіцы Італіі. Там упершыню сабраліся беларускія, літоўскія, польскія і ўкраінскія гісторыкі, каб паглядзець ды разам абмеркаваць гістарычную спадчыну — спадчыну ВКЛ і Рэчы Паспалітай, дзяржаў, якія доўгі час займалі не апошняе месца ў еўрапейскім свеце. Варта адзначыць, што ў той першай канферэнцыі бралі ўдзел не толькі тагачасныя савецкія гісторыкі ды іх калегі з Польшчы, але і гісторыкі з ліку эміграцыі. Тады ж і быў створаны міжнародны рымскі камітэт, які ўзяў за мэту штогод па чарзе праводзіць навуковыя канферэнцыі такога кшталту ў кожнай з чатырох краін-удзельніц і называць іх Рым-І, Рым-ІІ і г.д.

Рым-ІІ адбыўся ў 1991г. ў Любліне (Польшча), Рым-ІІІ — у Камянцы-Падольскім (1992г., Украіна). А Рым-IV, як, напэўна, памятае хто-ніхто з чытачоў "Культуры", праходзіў летась у нашай краіне, у Гродне.

І вось надышла чарга Літвы. У склад беларускай дэлегацыі ўваходзілі дактары навук Адам Мальдзіс, Уладзімір Конан, Уладзімір Снапкоўскі, а таксама кандыдаты гістарычных навук Эдвард Зайкоўскі, Генадзь Сагановіч, Алег Трусаў, Захар Шыбека ды беларускія даследчыкі з ЗША Вітаўт і Зора Кіпелі. Даклады нашых вучоных выклікалі пэўны рэзананс сярод удзельнікаў канферэнцыі. Па спрэчных пытаннях нашай агульнай гісторыі былі наладжаны дыскусіі.

Падчас канферэнцыі, а дакладней, 13 верасня, прадстаўнікі беларускай дэлегацыі А.Мальдзіс, А.Трусаў і спадарства Кіпеляў наведалі першую беларускую школу ў Літве. Гэта школа N68 у мікрараёне Вільні Каралінішке. Адбылася цёплая, цікавая сустрэча з педкалектывам школы. Госці наведалі ўрок гісторыі ў адным са старэйшых класаў, а для школьнай бібліятэкі пакінулі свае кнігі з аўтографамі.

Для ўдзельнікаў Рыма-V была наладжана экскурсія ў Старыя Трокі, месца, дзе сёлета літоўскія археолагі знайшлі рэшткі самага старажытнага мураванага замка на гэтай тэрыторыі. Пабудаваны на пачатку XIV стагоддзя Гедымінам, замак, на жаль, загінуў падчас крыжацкага нападу ў канцы таго ж стагоддзя...

У апошні дзень канферэнцыі шэраг літоўскіх гісторыкаў падверглі вялікай крытыцы публікацыі Міколы Ермаловіча, лічачы іх ненавуковымі і тэндэнцыйнымі. На што быў дадзены адказ нашых вучоных, сутнасць якога ў тым, што большасць беларускіх гісторыкаў прытрымліваецца выпрацовак "круглых сталоў", якія адбыліся ў свой час у Мінску і ў вёсцы Гярвяты, на беларуска-літоўскім памежжы. Менавіта там была дасягнута дамова лічыць ВКЛ супольнай беларуска-літоўскай дзяржавай, дзе да Люблінскай уніі 1569г. значную ролю адыгрывалі і ўкраінцы.

На апошнім пасяджэнні рымскага камітэта ў Троках было вырашана правесці Рым-VI увесну 1995 года — зноў у сталіцы Італіі. Вызначана і тэма канферэнцыі: "Сярэдняя і Усходняя Еўропа напярэдадні XXI стагоддзя".

**А.Т.**

# ГЭТА ЗДАРАЕЦЦА НЕ НАДТА ЧАСТА

У верасні 1994 г. кіраўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс уручыў доктару філалагічных навук, прафесару Беларускага універсітэта культуры В.Няфёдаву дыплом, у якім адзначаецца, што яго ўладальнік "з'яўляецца ганаровым сябрам міжнароднай асацыяцыі беларусістаў".

У.Няфёдаў, які выкладае ў вядучым індыйскім універсітэце імя Д.Нэру, паклаў пачатак непасрэдным беларуска-індыйскім літаратурным сувязям. Ім выдадзена ў Дэлі першая на мове хіндзі "Анталогія беларускай сучаснай паэзіі ў перакладах В.Сінгха" з уласнай прадмовай, арганізаваны альманах "Беларуская літаратура" і клуб аматараў рускай і беларускай славеснасці. Як і В.Няфёдаў, студэнты друкавалі ў індыйскай прэсе артыкулы пра нашу радзіму і літаратуру, класічную і сучасную. Адметным з'яўляецца артыкул Сангіты Губты "Слава Беларусі", надрукаваны па-англійску і на мове хіндзі ў нумарах штотыднёвіка "Маладзёжны агляд". Дзейнасць клуба рэгулярна адлюстроўвалася на старонках мясцовай прэсы. Клуб звярнуў на сябе ўвагу прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, напрыклад, прафесар В.Сінгх, запрошаны ў Мінск Саюзам пісьменнікаў Беларусі, у інтэрв'ю газеце "ЛіМ" распавёў аб тым, што да беларускай паэзіі яго наблізілі менавіта даклады У.Няфёдава пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа. Не выпадкова і тое, што ў надпісе, які індыйскі літаратар зрабіў для В.Няфёдава на сваёй кніжцы перакладаў савецкіх паэтаў, ёсць такія словы: "Сябру паэзіі..."

В.Няфёдаў падтрымлівае шчыльныя сувязі са шматлікімі індыйскімі літаратарамі і грамадскімі дзеячамі. Сярод іх паэт і палітык Ш.Варма, вельмі блізкі да сям'і Д.Нэру. Вядомы індыйскі паэт К.Сінгх так падпісаў зборнік сваіх вершаў: "З вялікай і ўдзячнай любоўю Валерыю Няфёдаву за беларускую зямлю". Класік індыйскай і сусветнай паэзіі Аг'ея, які нядаўна пайшоў ад нас, пакінуў клубу сваю фатаграфію з надпісам: "На памяць пра прыемную сустрэчу спадару Валерыю Няфёдаву". Наш вучоны і публіцыст падрыхтаваў да выдання рукапіс кнігі "Індыйскія дыялогі", якая, спадзяюся, будзе пазітыўным унёскам у беларуска-індыйскія сувязі, што развіваюцца дынамічна.

Работа даследчыка і папулярызатара беларускай паэзіі ў вялікай і дружалюбнай Індыі атрымала станоўчую адзнаку пісьменнікаў і вучоных — М.Танка, Г.Бураўкіна, А.Вярцінскага, Н.Гілевіча, В.Зуёнка, А.Лойкі, А.Мальдзіса, М.Грынчыка, А.Разанава, М.Мятліцкага і іншых. Кнігі і артыкулы, звязаныя з дзейнасцю прафесара В.Няфёдава ў Індыі, пададзены ў экспазіцыі "Беларусы ў свеце" і фондзе Цэнтра імя Ф.Скарыны.

Цяпер В.Няфёдаў з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса "Беларусь — Індыя", прызначанага Міністэрствам замежных спраў рэспублікі для індыйскага чытача. Ён ладзіць рабочыя планы ў кантакце з індыйскім паслом у Беларусі Р.Ч.Шуквай.

КАНТРАМАРКА

# МЫ НАЦЫЯ ГАМЛЕТАЎ І ДОН КІХОТАЎ



У ваколіцах Браслава і Полацка адзнятыя апошнія кадры мастацкага фільма "Вітаўт, або Пастка для зубра". Здымкі вяліся дзякуючы падтрымцы фірмы "Дайнова" і Наваполацкага вытворчага аб'яднання "Палімір". Аўтары карціны — рэжысёр шматлікіх дакументальных і мастацкіх фільмаў, галоўны рэжысёр Беларускага тэлебачання Віктар Шавялевіч і гісторык Сяргей Тарасаў.

У стары закінуты дом па дарозе на вёску Слабодка на дзень вярнулася жыццё. Несапраўднае — уяўнае, не сучаснае — падзеі далёкага 1413 года. А наведалі мясціны браслаўскія людзі слынныя, няпростыя — усё больш ва ўборах княжацкіх ды іншых старажытных, нашаму веку нязвыклых. Хата ўражвала жудаснаю запусцеласцю: шмат гадоў тут жылі толькі вятры ды завірухі. Дах абваліўся, тынкоўка абсыпалася, падлога пагніла. У куце дагнівала свой век старая шафа, іржавеў апусцелы ложак, адрыўны каляндар на сцяне спыніў час на 13 ліпеня 1986 года. Параскіданыя віншавальныя паштоўкі ("На память дорогому дедушке"), шматлікія гаспадарчыя прылады. Па ўсім відаць, дзед быў справавіты. Памёр гады чатыры назад, бабуля — яшчэ раней. Унукі нібыта жывуць недалёка. Але хату не скарысталі нават на дровы, фотаздымак суродзічаў у маладосці так і не знялі са сцяны.

Напрошваліся паралелі: не менш занядбаная сёння гістарычная памяць беларусаў.

— Пра што кіно здымаеце? — цікавіліся мясцовыя жыхары.

— Пра вялікага князя Вітаўта.

— Польскага?

— Ды не, нашага, беларускага.

— А-а... ну дык глядзець будзем.

Часткова з мэтаю асветніцтва ўзяліся аўтары фільма за гэтую працу. Каб растлумачыць назву Вялікага княства Літоўскага — старажытнай беларускай дзяржавы ад мора да мора, якая ў масавай свядомасці ўсё яшчэ асацыіруецца з Літвою. Каб вярнуць сучаснікам імя князя Вітаўта, пры якім ВКЛ дасягнула найбольшых памераў і магутнасці.

Але фільм не гістарычны — на сапраўдную гістарычную стужку сёння няма сродкаў, а зрабіць з "Вітаўта" камерцыю — недарэчная насмешка. Фільм не пра палітычную фігуру — пра асобу. Псіхалагічная драма пра тое, якую адказнасць бярэ на сябе Вітаўт, калі становіцца лідэрам нацыі, дзяржавы.

Гэтае пытанне рэжысёру фільма здаецца сёння адным з самых галоўных. Бо ўсе мы так ці іначай лідэры — у сям'і, на працы, у кожным выпадку, калі адказваем за нешта, за некага.

— Якія пасткі чакаюць чалавека, калі ён бярэ на сябе такую нялёгкую задачу,— вось гэта мы і хочам прааналізаваць на прыкладзе вялікага князя. Нас цікавіць, як ён будаваў дзяржаву, Беларусь. Бо за гады, што былі пад Расіяю, пад саветамі, у нас столькі зруйнавана, што нацыю, нацыянальную вартасць трэба не адраджаць, а будаваць нанова. А лідэры нацыі — бы маякі на гэтым няпростым шляху, — гаворыць Віктар Шавялевіч.

Віктар Васілевіч верыць у сімвалы. Услед за Таркоўскім, у семінары якога пашчасціла займацца, ён з трапяткім пачуццём ставіцца да зямлі, якая кіруе чалавекам. У кіно можна зрабіць выгляд, што знаходзішся ў той ці іншай мясціне, але нельга штучна стварыць адпаведны настрой.

Таму невыпадкова фільм здымаецца ў Полацку і Браславе. Полацк, як быў, так і застаецца духоўным цэнтрам Беларусі, тут, як нідзе, захаваўся дух нацыі. Каб адчуць нешта ўзнёслае, Шавялевічу абавязкова трэба сюды даехаць. Адна з лепшых яго работ у дакументальным кіно "Славянскія танцы" на якім іншым месцы не магла атрымацца такой. Полацк дапамагаў аўтару на кожным кроку.

А на Браслаўшчыне для Шавялевіча самая лепшая краявідная прырода, край, дзе найбольш адчуваецца еднасць чалавека з прыродаю, якая — па глыбокім пераконанні рэжысёра — заўсёды помсціць за парваныя сувязі паміж людзьмі і сабою. Чарнобыльская катастрофа — з шэрагу гэтае помсты, маральны Чарнобыль спасціг нашае грамадства. І гэта асабліва істотна зразумець сёння, калі мы будуем новую дзяржаву.

Якім павінен быць валадар краіны — напісана яшчэ у Канфуцыя. Вітаўт набліжаўся да гэтага ўзору, ён кіраваў дзяржаваю 38 гадоў. Сучасным кіраўнікам ёсць чаму ў яго павучыцца, сцвярджаюць стваральнікі фільма.

Галоўнаю рысаю вялікага князя лічаць яны яго тыповую беларускасць. Даверлівы, маральна чысты сам, ён ніяк не можа паверыць у чалавечую подласць, вагаецца, ці трэба помсціць, ці варты кароны.

— На жаль,— кажа В.Шавялевіч,— мы рэфлексіўная нацыя. Мы ўсе Гамлеты, Дон Кіхоты: не будзем бараніцца, пакуль нам не зробяць вельмі балюча. Не хочам нікога пакрыўдзіць, а так нельга. Самі ствараем сабе пасткі, каб потым іх герaічна пераадольваць.

Фільм "Вітаўт, або Пастка для зубра" — спроба даследаваць беларускі нацыянальны характар. У спрыяльных варунках — характар выдатны, залаты, у неспрыяльных — памяркоўны да страты самабытнасці. У ролях здымаліся вядомыя беларускія акцёры —Яўген Жураўкін, Вольга Лужкоўская, Мікола Кірычэнка, Пётра Юрчанкоў, Фама Варанецкі, Міхаіл П!ятроў, шмат маладых артыстаў.

**Ларыса МАЛАШЭНЯ**

*На здымку:* рабочы момант здымак фільма, акцёры Яўген Жураўкін — Вітаўт, Вольга Лужкоўская — Ганна.

**Фота Сяргея ТАРАСАВА**

# ЛЯЛЬКІ З ДЗІЦЯЧЫХ СНОЎ

***Творчы партрэт мастака Беларускага тэатра "Лялька" Алеся СІДАРАВА***

Персанажы лялечнага спектакля, створаныя мастаком-пастаноўшчыкам, пачынаюць жыць на сцэнічнай пляцоўцы паводле сваіх уласных законаў. Падуладныя акцёрскай волі, яны адначасова вядуць выканаўцаў за сабой згодна логіцы фантазіі. Ці не таму мастак лялечнага тэатра — гэта заўсёды сааўтар, раўнапраўны стваральнік вобразнай сістэмы спектакля? Найшырэйшыя творчыя магчымасці дазваляюць аднесці яго да найсучаснейшых мастакоў. І сапраўды: амаль усе стылі ўсіх эпох даводзіцца асвойваць мастаку-лялечніку. Багацце прыроднага і штучнага матэрыялу вы знойдзеце ў яго творчай майстэрні — дрэва, бронзу, капрон, пап'е-машэ, паралон, паркаль. У яго прафесіі сінтэзуюцца розныя віды выяўленчага мастацтва — сёння ён жывапісец, а заўтра — разьбяр па дрэве, графік, скульптар, мастак-мадэльер.

Алесь Сідараў — галоўны мастак Беларускага тэатра "Лялька". Нарадзіўся ў Віцебску. Тут, на Беларусі, яго глеба, яго карані, што сілкуюць творчасць. Але ў малечым узросце разам з бацькамі (ён нарадзіўся ў сям'і ваеннаслужачага) выехаў у Расію, у Ленінградскую вобласць. Там скончыў васьмігодку і паступіў у Ленінградскае мастацкае вучылішча імя Сярова на спецыяльнасць "мастак-бутафор". Як прызнаецца сам Аляксандр Сяргеевіч, выбар прафесіі быў досыць выпадковы, але паступова ён настолькі захапіўся гэтай справай, што ўжо не ўяўляў свайго далейшага жыцця без тэатра. Вучобу працягваў у Ленінградскім дзяржаўным інстытуце тэатра, музыкі і кінематаграфіі, на аддзяленні "мастак-скульптар лялечнага тэатра". Кіраўніком курса была Валянціна Хаўралёва, якая сумяшчала выкладчыцкую дзейнасць з працай мастака-пастаноўшчыка Вялікага тэатра лялек. Вельмі своеасаблівы майстар, яна вяла студэнтаў па ёй самой зведаным шляху — глыбокага спасціжэння культур розных народаў.

У 1989 годзе здзяйсняецца даўняя мара Алеся — ён разам з жонкай пераязджае працаваць у Беларусь. Хацелася адразу ў Віцебск, дзе ўзнік першы нацыянальны лялечны калектыў, але былі сякія-такія жыллёвыя праблемы, і таму год папрацавалі ў Брэсце. Там сумесна з галоўным рэжысёрам тэатра лялек Сяргеем Юркевічам былі выпушчаны спектаклі "Забыць Герастрата" Р.Горына і "Чароўная лямпа Аладзіна" Н.Гернэт, якія асаблівага задавальнення не прынеслі. І вось нарэшце ў 1990 годзе ("Лялька" тады атрымала ўласны будынак і, аддзяліўшыся ад калясаўцаў, стала самастойным творчым калектывам) сямейная пара прыязджае на сталую працу ў Віцебск. Ён — галоўны мастак, яна — мастак-пастаноўшчык.



Спектакль "Папялушка" (першая сумесная праца Ганны і Алеся Сідаравых на віцебскай лялечнай сцэне) з моманту свайго "нараджэння" і па сённяшні дзень карыстаецца нязменным поспехам не толькі ў дзіцячай аўдыторыі, але і сярод дарослых гледачоў. Найперш прываблівае безумоўнае хараство віддовішча, стылізаванага пад французскі прыдворны тэатр XVII стагоддзя. Белая залочаная мэбля, фігурныя люстэркі, бронзавыя свечнікі ствараюць адметную эстэтыку прасторы. А калі дадаць да гэтага атласныя касцюмы спадароў акцёраў і шыкоўныя сукенкі спадарынь-акторак, фіялетавыя напудраныя парыкі, то можна атрымаць уяўленне аб вытанчаным, па-класіцысцку строгім стылі пастаноўкі. У аснове мастацкага вырашэння — эфект цуда, пераўтварэння ў спалучэнні з тэатральнасцю, стылізаванай вытанчанасцю. Удзельнікі спектакля (акцёры і мініяцюрныя драўляныя лялькі, аздобленыя рознакаляровымі карункамі, капронам і іншымі празрыстымі тканінамі) і інтэр'ер нібы вярнуліся да нас з дзіцячых сноў, нязбытных мрояў. Выразна прагучалі ў спектаклі настальгічныя ноткі.

Далей была праца з польскім рэжысёрам Янінай Кешкоўскай над спектаклем "Лялечнік" паводле п'есы ангельскага драматурга Марціна Сціvenса, які выpашаны ў зусім іншым жанравым і стылістычным ключы, у больш аскетычнай форме. Лялька тут робіцца сімвалам, знакам.

Мастак знаходзіцца ў пошуку: яго шлях пакручасты, не пазбаўлены пэўных хібаў і памылак. Але гэта і ёсць шлях сапраўднага творцы. Спектакль "Салдат і Ведзьма" паводле Г.-Х.Андэрсэна не лічыцца ў тэатры асаблівай удачай, але, на маю думку, былі ў ім і станоўчыя моманты. Прыкладам, цэнтральная метафара твора — крышталёвы замак, да якога так імкнецца Салдат. Замак узнікае недзе ў паветры, афарбаваны ў бірузова-фіялетавыя таны — нібы мара, патаемны цуд, да якога чалавек можа імкнуцца ўсё жыццё. "Крышталёвы замак" як пэўны сімвал пераадольвае застылую статыку спектакля, напаўняе яго паэтычным водарам.

Спаконвеку, ад моманту свайго нараджэння, лялечны тэатр рухаўся ў двух напрамках. Першы — больш блізкі да фальклорнага мастацтва. Адсюль пайшлі балаган, камедыя масак, пальчаткавыя лялькі. Паводле тэрміналогіі Пітэра Брука — гэта так званы "грубы" тэатр, які цягнецца да знешняга эфекту, цуда, пераўтварэння, штукарства. Другі накірунак, вытокі якога трэба шукаць у рэлігійных рытуалах, абрадах, — "свяшчэнны" тэатр. Адсюль, дарэчы, пайшла містэрыя. Ён імкнецца раскрыць таямніцы духу. У лялечным мастацтве ён выявіўся як тэатр марыянетак. Калі разглядаць творчы шлях Алеся Сідарава, то ў ім даволі выразна вылучаюцца два этапы. Напачатку творца захапляўся знешнім штукарствам у спектаклях "Лялечнік", "Іванава шчасце", "Салдат і Ведзьма". Ім выкарыстоўваюцца ў асноўным пальчаткавыя лялькі. Потым мастак прыйшоў да найскладанейшай сістэмы лялек — марыянетак. Першы спектакль у гэтым, новым для яго, напрамку — "Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка" У.Граўцова паводле твораў Яна Баршчэўскага. За гэтую пастаноўку А.Сідараў разам з рэжысёрам Алегам Жугждам атрымаў прэмію імя Любові Мазалеўскай, якая прысуджаецца за лепшыя творы для дзяцей і юнацтва Саюзам тэатральных дзеячаў і Міністэрствам культуры. Рэжысёр спектакля прапанаваў умоўную сітуацыю. Дзеянне разыгрываюць вучні Полацкага езуіцкага калегіума, дзе, дарэчы, навучаўся і сам Ян Баршчэўскі. Мастак жа апранае іх зусім не ў касцюмы манахаў ці святароў. Алесь Сідараў ведаў, што напрыканцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя школьныя тэатры езуітаў ужо адыходзілі ад царкоўных форм паказаў і набліжаліся да свецкіх прадстаўленняў, а менавіта, да тэатра еўрапейскага класіцызму: ставіліся камедыі Мальера, трагедыі Карнэля, Расіна, Вальтэра, польскіх драматургаў. Таму мастацкае афармленне спектакля "Загубленая душа" набліжана да класіцысцкай эстэтыкі магнацкага тэатра — вялікія партальныя вазы нібы знаходзяць працяг у лёгкіх абрысах прысядзібнай альтанкі з прыгожымі калонамі і балюстрадай, шчодра спавітай садова-паркавай лістотай. Разам з тым трох'ярусная канструкцыя дэкарацыйнай устаноўкі (неба, зямля, пекла) нагадвае традыцыйную беларускую батлейку. Своеасаблівыя адтуліны-"акенцы", у якіх з'яўляюцца Анёл і Чорт, таксама нараджаюць асацыяцыі з народным тэатрам. Узнікае пэўная парадыйнасць, якая не толькі не псуе агульнага ўражання ад спектакля, а, наадварот, надае яму мастацкую цэласнасць і цікавую жанравую акрэсленасць.

Доўгія часы беларускае мастацтва атаясамлівалася з лапцямі, вясковым побытам і гутарковай "трасянкай". А вялікі пласт духоўнай ды свецкай культуры абвяшчаўся здабыткам суседніх народаў. Беларускі тэатр жа ўяўляўся пазбаўленым якіх-небудзь заходнееўрапейскіх уплываў. Мастацкі кіраўнік тэатра "Лялька" Віктар Клімчук і галоўны мастак Алесь Сідараў будуюць новы беларускі тэатр, у якім — і ўласная нацыянальная адметнасць, і лепшае з еўрапейскай лялечнай эстэтыкі. Пра гэта сведчаць спектаклі апошніх гадоў — "Дапытлівы слонік" паводле Р.Кіплінга, "Яшчэ раз пра Чырвоны Каптурык", "Загубленая душа". Зараз ідзе праца над "Хлопчыкам-зоркай" па матывах твораў Оскара Уайлда, якія даюць неабсяжную прастору для рэалізацыі творчага патэнцыялу мастака.

**Юрась ІВАНОЎСКІ**

*На здымку:* Сцэна са спектакля "Папялушка" паводле Я.Шварца (лялькі і сцэнаграфія Ганны і Алеся Сідаравых, Беларускі тэатр "Лялька").

**Фота С.КОХАНА**

ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ЗЯМНЫЯ СКРЫЖАЛІ

## Першае інтэрв'ю — з... татам-паэтам



***Памятаеце, у Якуба Коласа ёсць такія радкі: "Таемны вы, зямлі скрыжалі! Чаго ў сябе вы не ўпісалі!" Звычайна пад скрыжалямі мы разумеем калі не пліту з напісаным на ёй свяшчэнным тэкстам, дык нешта высокае, духоўнае...***

***Я звяртаюся да паэта Сяргея ПАНІЗЬНІКА з пытаннем, як ён разумее гэтае слова з біблейскай міфалогіі — "скрыжаль"?***



— Уся наша зямля — скрыжаль. Я ўяўляю Беларусь вялізнай, мо дзесьці патрушчанай, біблейскай дошкай з запаветамі, на якой пазначана наша гістарычная памяць — падзеі, даты, імёны і, самае галоўнае, ідэі.

**— Як можна прачытаць тыя радкі са скрыжаляў?**

— А трэба толькі пільна, уважліва ўглядацца. Вось такі прыклад. Я нарадзіўся каля мястэчка Лявонпаль у Мёрскім раёне. Гэта на Прыдзвінні. Там і зараз стаіць калона ў гонар Канстытуцыі 3 траўня 1791 года. Дзеюць царква, закладзеная як уніяцкая ў 1774 годзе, і касцёл, дзе так вусцішна правіць службу на нашай роднай мове ксёндз Валдас Пятрайціс.

Сядзіба графа Лапацінскага — гэта тая ж самая скрыжаль. Я даведаўся, што адзін з Лапацінскіх быў пісарам Вялікага княства Літоўскага. Прадстаўнікі гэтага графскага роду ўдзельнічалі ў паўстаннях Т.Касцюшкі, К.Каліноўскага, у Варшаўскім паўстанні... Дзякуючы Лапацінскім сярод лясоў Прыдзвіння, у маіх родных мясцінах, у палацы на беразе Дзвіны-Рубона быў створаны цывілізаваны акрайчык еўрапейскай, а праўдзівей — сусветнай культуры. У мястэчку з пяцівяковай зафіксаванай у дакументах гісторыяй, якое спачатку належала Сапегам, Агінскім, граф Мікалай Лапацінскі, пісар Вялікага княства, 250 гадоў таму пачаў гаспадарчую і культурную дзейнасць. Са славутага мясцовага лёну выпускалі на экспарт каберцы, сурвэты, абрусы. Працавалі там капялюшная і суконная фабрыкі, дзве фабрыкі па вырабу паперы, цагельня. У маёнтку былі чатыры арыгіналы Рубенса, фламандскія нацюрморты, англійскія карціны-марыны, антычныя ўзоры мастацтва, венецыянскае шкло. Пры шыкоўнай бібліятэцы знаходзіліся друкарня, доследна-навуковыя кабінеты. У аранжарэі французскага парка раслі лаўры, фігавыя дрэвы, ананасныя, лімонныя і гранатавыя. Працавала складаная сістэма фантанаў. Яшчэ і зараз па абсадках векавых ліпаў можна здагадацца, дзе былі алеі і альтанка, у якой гралі музыкі.

**— Пазнаёміўшыся з запісамі пра сядзібу Лапацінскага, я магу ўслед за цытаваным там даследчыкам Отанам Гедэманам сказаць, што цэнтрам культуры можна лічыць не толькі Менск ці Вільню, Мёры, Друю ці Дрысу, а і невялікі куточак вось гэтага раю на беразе Дзвіны, дзе дзеялі Лапацінскія?**

— Цэнтрам культуры зможа стаць кожны асяродак. Як адзначаў на прыкладзе Лявонпаля пан Отан Гедэман, там адбываліся частыя і людныя сходы, будзілася думка, кіпелі дыскусіі. Лапацінскія і іх сябры імкнуліся жыць культурай усечалавечай. Ці не прыклад гэта і для ўсіх нас? Бо ўсе нашыя ўчарашнія справы ўжо сёння становяцца гісторыяй. Мы ўсе з вамі пішам свае скрыжалі і пакідаем свае адзнакі на скрыжалях нацыі, калі нашыя дзеі — ствральныя, творчыя, у імя Адраджэння...

**— Значыць, не ўсё "ў капцах паснула, зеллем парасло"?**

— Не, не і не! Варта толькі ўмець угледацца ў аколле, як хутчэй праміне тундру гістарычнага бяспамяцтва.

**— А як адгукнулася сядзіба Лапацінскага ў Вашай творчасці? Дапамог натхненню вобраз графа, які быў зусім нядаўна толькі сімвалам прыгнятальніка, эксплуататара, а калі ж да таго такі чалавек аказваўся каталіцкага веравызнання, то і душыцелем ісціннай веры?**

— Я адчуваў уплывы біяполя, назапашанага гэтым культурным асяродкам, і ягоныя вобразы, дух і водар увасобіліся ўжо ў вершах маёй першай кніжкі "Кастры Купалля".

### БЕРАГ

*Каля Дзвіны ў крынічанцы лазовай*
*аскому лета юнага гасіў.*
*І цяжка выспявала ў сыне слова,*
*нібы імя, якое край насіў.*
*Але калі ўжо наязджаў са свету,*
*наслухаўшыся, як пяе сусед, —*
*між землякоў я адкрываў паэтаў,*
*і сам я пачуваўся, як паэт.*
*Мяне гукалі леты на улонне,*
*каб летапісы дзвінскія бярог...*
*Як Усяслаў,*
*дасюль я у палоне*
*маіх*
*на бацькаўшчыну выбраных дарог.*
*І калі дні Радзімы палымнеюць,*
*дзяржаўны сцяг палае угары, —*
*тады й на мой маленькі прапар веюць*
*Задзвіння радаводныя вятры.*
*І Беларусь крывіцкая аберуч*
*узважвае сыноўняе крыло:*
*маю любоў, маю адданасць, веру, —*
*усё, што вывела мяне*
*за родны бераг,*
*і што назад на бераг прывяло.*

Праз тыдзень-два выйдзе мая новая кніжка пад назваю "А пісар земскі..." Гэта радок са Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года. Як я адзначаў, пісарам быў і граф Лапацінскі. Але пра роднасць двух названых пісараў — наступным разам...

**— То хай так і будзе. Дзякую за размову.**

**Вераніка ПАНІЗЬНІК,**
**студэнтка факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта**

*На здымках:*

1. Уніяцкая царква Спаса ў Лявонпалі. 1774г. Сучасны выгляд.

2. Выраб з цагельні Станіслава Лапацінскага.



# СЯБРА ГЁТЭ І ШАПЭНА

У верасні 1994 года Нясвіж наведаў Антоні Радзівіл, які разам з жонкай Ружай (з Чартарыскіх) прысутнічаў на міжнародным навуковым сімпозіуме "Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць". Асоба князя Радзівіла выклікала цікавасць у грамадстве. Сваё паходжанне цяпер лонданскі князь вядзе ад свайго далёкага прапрадзеда з берлінскай галіны Радзівілаў. Гаворка ідзе таксама пра Антонія Радзівіла.

Князь Антоні Генрык Радзівіл (1775 — 1833), намеснік Вялікага княства Познанскага, XII ардынат нясвіжскі, ажаніўся з Людвікай прускай, дачкой Фердынанда, роднага брата прускага караля Фрыдрыха Вільгельма. Шлюб адбыўся 17 сакавіка 1796 года — у горкі час трэцяга разбору Рэчы Паспалітай, трагедыі польскага, беларускага і іншых народаў.

Антоні Радзівіл быў прыгожым і прыстойным, жаданне Людвікі выйсці за яго замуж было б і так зразумелым, але тут быў і палітычны падтэкст. Прускі каралеўскі двор зрабіў стаўку на тое, каб абвясціць князя Антонія польскім каралём і вялікім князем Літоўскім насуперак інтарэсам Расіі.

Княгіня Людвіка Радзівіл некалькі гадоў вяла дзённік, з якога можна шмат даведацца пра цікавыя падзеі таго часу. Яна лічылася адной з самых адукаваных жанчын Еўропы, ведала некалькі замежных моваў, дарэчы, свой дзённік вяла на французскай мове. З ёю лічыўся ўвесь каралеўскі двор, ёй рабіў асабістыя візіты рускі імператар Аляксандр І. У Радзівілаўскім архіве знойдзена шмат яе лістоў да Напалеона. Уплывовая прадстаўніца прускага каралеўскага двара, яна спачувала сваёй польска-беларускай радні і паўстанню Касцюшкі.

Антоні Радзівіл атрымаў бліскучую адукацыю, захапляўся музыкай, літаратурай і жывапісам, лічыўся сябрам Гётэ. У 1814 годзе ён напісаў музыку да знакамітага "Фаўста", якая вельмі спадабалася вялікаму паэту. Гётэ лічыў кампазітара Радзівіла "першым і адзіным трубадурам, якога ведаў".

У 1819 годзе прускі каралеўскі двор паставіў некалькі урыўкаў з оперы Радзівіла на сюжэт Гётэ. На спектаклі з прычыны хваробы сам паэт адсутнічаў, але ён прыслаў свайго сына Аўгуста. На наступны год прускі двор вырашыў паўтарыць оперу у дзень нараджэння Людвікі. Але неспадзяваны выпадак перашкодзіў спектаклю. Аднойчы зімовым днём увесь каралеўскі двор адпачываў у гарах, дзе любімым заняткам было катанне на санках. Выпадкова санкі аднаго з Радзівілаў вывернулі на горцы караля. Той самлеў і некалькі дзён праляжаў у ложку.

Незвычайны, можна сказаць, трагічны лёс напаткаў дзяцей Антонія Радзівіла. Чацвёра з васьмі памерлі ў дзяцінстве альбо ранняй маладосці. Старэйшая дачка Луіза, якую ў сям'і называлі Лулу, стала ахвярай гарачага самавара, які ўпаў на яе. За дзень да смерці 2 красавіка 1808 года дзяўчынка папрасіла маці паглядзець на вялікі гадзіннік на сцяне і запыталася, ці бачыць тая анёла на тым месцы, якое паказвае дзве з паловай гадзіны апоўдні. Назаўтра роўна ў гэты час яна памерла.

Другая дачка, Эліза, зрабілася прычынай вялікіх спрэчак у каралеўскай прускай сям'і, калі ў яе закахаўся Вільгельм, — той самы, якога пазней добра вядомы Бісмарк у Версальскім палацы абвесціць імператарам аб'яднанай Германіі. Эліза, як і яе бацька, горача любіла музыку, паэзію, захаплялася творчасцю Адама Міцкевіча, вельмі добра малявала, мела значныя артыстычныя здольнасці.

Ні адзін гісторык Прусіі і Рэчы Паспалітай не абышоў увагай гэтае трагічнае каханне. Адзін з нямецкіх даследчыкаў пісаў, што гісторыя "кахання гэтых двух каралеўскіх дзяцей, якія не змаглі прыйсці да сябе да канца свайго жыцця, узрушае кожнага вельмі глыбока". У Беларусі літаратуры на гэты конт няма.

Спачатку, галоўным чынам у прамежку паміж 1810 — 1820 гг., узаемная сімпатыя гэтых мілых дзяцей выклікала радасць у вачах усіх родных. Амаль усе члены каралеўскай сям'і спачатку хацелі гэтага саюзу, але тут умяшаліся палітычныя варункі. Германія не хацела сварыцца з Расіяй. Ажаніцца з прадстаўніцай хай і былой літоўска-беларускай дзяржавы было вельмі рызыкоўна, гэта магло б нават выклікаць міжнародны канфлікт. Прускі двор падзяліўся на тых, хто быў "за", і на тых, хто быў супраць і казаў "не". Уносілася нават прапанова, каб Аляксандр І, рускі імператар, удачарыў Элізу. Тады вяселле магло б адбыцца, бо Вільгельм браў бы нібы не ліцвінку, а рускую з благаслаўлення самога рускага імператара. Гэты саюз не выглядаў бы тады як антыруская акцыя.

Нарэшце бацька — прускі кароль — піша пісьмо сыну, дзе рашуча дае зразумець, што шлюб з дачкой Антонія Радзвіла не можа мець месца. Гэты суровы прысуд выклікаў роспач і стогны ў душы прынца, бо ён кахаў Элізу шчыра і глыбока. Але быў вымушаны пакарыцца загаду бацькі і ажаніўся з той, каго выбраў прускі двор. Да канца жыцця не забыўся ён на сваё першае каханне, перажыўшы Элізу на 55 гадоў. Прускі імператар увесь час клапаціўся аб сям'і Радзівілаў, зрабіўшы сваім сябрам і ад'ютантам брата Элізы. Перад смерцю пачаў гаварыць пра Элізу, вельмі ўзбудзіўся і папрасіў навакольных: "Пакіньце мяне аднаго, я вельмі ўсхваляваны гэтай размовай".

Антоні Радзівіл ведаў усіх музыкантаў свайго часу ў Еўропе, дапамагаў маладым талентам. Ён запрасіў дзевятнаццацігадовага Фрэдэрыка Шапэна да сябе ў палац Антанін. У гэтым палацы ў цудоўнай залі для адпачынку Шапэн сустрэўся з дочкамі князя і падпаў пад уздзеянне іхніх чараў. Яны падоўгу стаялі каля фартэпіяна, калі ён імправізаваў, гаварылі з ім цэлымі днямі. Гэтае знаёмства Шапэна і яго побыт у Антаніне увекавечыў вядомы мастак Генрых Семірадскі.

У 1833 годзе Антоні Радзівіл памёр, а праз год маладзенькай дзяўчынай сышла з гэтага свету і яго дачка Эліза, якая захварэла на сухоты. Родны брат Антонія Радзівіла князь Міхал Гедэон Радзівіл (1778-1850) узначаліў лістападаўскае паўстанне Рэчы Паспалітай за незалежнасць роднага краю. Вось якія карані ў чалавека, які ў верасні наведаў наш горад...

**Клаўдзія ШЫШЫГІНА-ПАТОЦКАЯ**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**